ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 118 (5300)
Субота,
13 кастрычніка
2001 года

Кошт
у розніцу —
82 руб.



9 кастрычніка Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка уручыў дзяржаўныя ўзнагароды.
НА ЗДЫМКУ: Аляксандр Лукашэнка ўручае медаль "За працоўныя заслугі" настаўніку гімназіі Светлагорска Мікалаю Яльчыку.

Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БЕЛТА.

Выхаванне

## Губляецца асноўнае звяно

*Навучыць намнога лягчэй, чым выхаваць. Але, як сцвярджае старадаўняя мудрасць, – "веды без выхавання – меч у руках вар'ята". Самы, бадай, сумны і адначасова наглядны доказ таму – амерыканская трагедыя ў верасні.*

"Асноўныя задачы ў арганізацыі выхаваўчай работы ў новым навучальным годзе" – так называлася гарадская інструктыўна-метадычная нарада, што адбылася ў Мінску. Удзельнікамі яе сталі намеснікі дырэктараў школ і ПТВ па выхаваўчай рабоце, дырэктары пазашкольных устаноў, арганізатары раённага аддзела адукацыі, спецыялісты гарадскіх адукацыйных і іншых устаноў.

Па выніках даследавання псіхалагічнай службы, асноўнымі праблемамі ў гэтай галіне ў горадзе з'яўляюцца канфлікты паміж дзецьмі і бацькамі, паміж дзецьмі і школьнымі настаўнікамі і агрэсіўнасць у падлеткавым асяроддзі, якая па-ранейшаму застаецца высокай. Вострай застаецца праблема паводзін дзяцей у грамадскіх месцах, выклікае занепакоенасць рост наркаманіі і п'янства сярод дзяцей і моладзі. Таму асноўнымі задачамі, якія былі пастаўлены перад школамі ў гэтым навучальным годзе, з'яўляюцца выхаванне навыкаў здаровага ладу жыцця, зніжэнне агрэсіўнасці (стабілізацыя падлеткавай злачыннасці), педагагічная адукацыя бацькоў, выхаванне актыўнай грамадзянскай пазіцыі ў школьнікаў.

У сваім выступленні намеснік начальніка гарадскога ўпраўлення адукацыі Т.А.Сезень адзначыла, што ў большасці школ выхаваўчая сістэма ў сваёй дзейнасці страчвае асноўнае звяно: урок. У некаторых школах не створаны належны мікраклімат, амаль 50 працэнтаў дзяцей прадстаўлены пасля ўрокаў самі сабе, часта аказваюцца без справы нядаўнія выпускнікі.

Разам з тым было адзначана, што цэлы шэраг педагогаў працуе па сваіх аўтарскіх праграмах, і гэтая работа, як правіла, праходзіць плённа. Асаблівая ўвага гарадскім упраўленнем адукацыі ў апошні час надаецца праблемам класнага кіраўніцтва – гэтае пытанне зараз стаіць на парадку дня.

На першым плане ў выхаваўчай рабоце ў маштабах горада – рэалізацыя праграмы "Я – мінчанін", якая ўжо пачалася з акцый "Мой дом", "Мой пад'езд" і інш. Плануецца арганізаваць работу па сямі блоках, такіх як "Мая школа", "Горад і я", "Нашчадкі Скарыны", "Права і я", "Суперлідэр" і інш. Увогуле, калі праводзіць гэтую работу педагагічна дасведчана, дык, у прынцыпе, усю выхаваўчую дзейнасць можна пабудаваць вакол гэтай праграмы і атрымаць у выніку цудоўны эфект.

Дзеці маюць вялікую патрэбу ў грамадскай дзейнасці, хочуць самасцвердзіцца ў сацыяльных стасунках – і гэтая патрэба павінна быць задаволена ў школе. Таму перад усімі педагагічнымі калектывамі горада ўпраўленнем адукацыі пастаўлена задача мець у сваёй навучальнай установе грамадскую арганізацыю. А наогул школа сёння павінна ладзіць усю сваю работу на аснове сувязей з зацікаўленымі службамі, ісці ім насустрач, працаваць, не адгароджваючыся ад соцыуму, а побач, разам з ім. Гэта – патрабаванне часу.

Святлана СУБОЦІНА.

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## І ў глыбінцы, і ў забруджанай зоне

У жыцці кожнага чалавека школа займае асаблівае месца. У мяне з ёю звязана ўсё маё свядомае жыццё.

Бацька мой закончыў Слаўгарадскую школу. Са школьнага ж двара ён са зброяй у руках пайшоў абараняць родную зямлю ад ворагаў. Я была зусім маленькай у той 1941 год. У калясачцы прывезла мяне маці развітацца з бацькам. І тут, на школьным двары, развіталася я з ім назаўсёды. Ён загінуў у няроўным баі ў 1944 годзе.

Вярнуўшыся з эвакуацыі, мы не знайшлі свайго дома. Ён згарэў. Але з вялікай радасцю я, мама і сястра падбеглі да ўцалелай школы. Маці паказала нам месца развітання з бацькам. Гэтае месца – заўсёды ў маёй памяці.

У часіны радасці ці смутку я прыходжу сюды на спатканне з бацькам...

Старэйшая сястра закончыла гэтую самую школу, закончыла яе і я. Мне давялося нават і папрацаваць ў ёй. Ужо некалькі гадоў я знаходжуся на заслужаным адпачынку, але ў думках – заўсёды са школаю.

Зараз у школе № 1 Слаўгарада навучаецца 835 дзяцей. Школа – сярэднеадукацыйная. Заняткі праводзяцца ў дзве змены. Будынак – маленькі, двухпавярховы. Даўно быў складзены праект прыбудовы да яго, але толькі на паперы. Тым усё і скончылася. Іншы раз з-за недахопу месца нельга правесці з вучнямі заняткі па інтарэсах або факультатывы. Дзеці з групы падоўжанага дня вымушаны працяглы час праводзіць на вуліцы, таму што ім няма дзе займацца. Урокі фізічнай культуры ў непагадзь праводзяцца ў спартыўнай зале з трыма класамі адначасова. Якая карысць ад такіх заняткаў?

У школе няма нават элементарнага спартыўнага інвентару. Калі дазваляе надвор'е – дзеці гуляюць у гульні, якія не патрабуюць ніякага інвентару: у лапту, гарадкі. А што рабіць зімой?

Адна палова школы пабудавана яшчэ да вайны. Яна патрабуе капітальнага рамонту. У гэтым годзе наш спонсар, АСБ "Беларусбанк", выдзеліў 33 млн. рублёў на рамонт памяшкання. За іх удалося толькі прывесці ў належны выгляд фасад, замяніць падлогу ў калідоры і ўваходныя дзверы. На замену даху грошай не хапіла.

Не заўсёды задавальняе рацыён харчавання ў сталоўцы, хоць яно і бясплатнае. Тэхналогія прыгатавання страў пакідае жадаць лепшага. Міністэрству аховы здароўя варта перагледзець нормы харчавання на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях. Дзеці не атрымліваюць у належнай колькасці садавіны, іншых прадуктаў. Каб зберагчы бясплатнае харчаванне трэба, каб у раён грошы паступалі толькі з рэспубліканскага бюджэту (мэтанакіравана), а не з абласнога.

Два разы ў год вучні аздараўліваюцца, як і прадугледжана Міністэрствам аховы здароўя. Для здароўя гэта, можа, і добра. Але, на думку педкалектыва, аздараўленне адмоўна ўплывае на вучэбны працэс, на набыццё ведаў вучнямі. Школа вялікая, і не ўсе вучні адначасова едуць у санаторый. Адны за лета могуць аздаравіцца два разы. Ім ехаць у вучэбны час ўжо нельга. У іншых – ёсць важкія прычыны, якія не дазваляюць ехаць з класам на аздараўленне. І вось частка дзяцей застаецца займацца ў школе: калі адсутнічае палова (а то і большая частка) настаўнікаў-прадметнікаў.

Можна б знайсці на гэты час педагогаў, якія б замянілі настаўнікаў. Але ў пісьме Міністра адукацыі Рэспубліка Беларусь ад 12.06.1998 г. № 11-6/164 "Аб парадку і ўмовах прыцягвання педагагічных і іншых работнікаў, выязджаючых у месцы аздараўлення" прадугледжана толькі аплата працы настаўнікам, якія працуюць у санаторыі, і нічога ў тым пісьме не сказана аб аплаце за замену ўрокаў у школе.

Падобных пытанняў шмат, і спадзяемся, што яны будуць вырашацца.

Браніслава БАЙВЕР,
Слаўгарад.

Навіны

## Рэалізуецца восем аўтарскіх праграм

*Рэалізацыя віцебскай абласной праграмы "Выхаванне" ў сістэме прафтэхадукацыі дае свой плён. Створаны эксперыментальныя пляцоўкі, скарэкціраваны і зацверджаны аўтарскія праграмы.*

Арганізавана абласная творчая лабараторыя "Выхаванне", у рабоце якой актыўны ўдзел прынялі спецыялісты ВНУ, абласных цэнтраў "Здароўе", "Нацыянальная культура", работнікі праваахоўных органаў, маладзёжных суполак. Абласная творчая лабараторыя аб'яднала ў сабе функцыі кансультацыйнага пункта, экспертнага савета, школы педагагічнага майстэрства. Склалася сістэма са строга вызначанымі функцыямі на ўсіх узроўнях арганізацыі выхаваўчай работы, з метадычным забеспячэннем усіх асноўных напрамкаў Канцэпцыі выхавання, з метадычнай вучобай педагагічных кадраў, з аб'яднаным банкам метадычных матэрыялаў і сцэнарыяў.

Сёння рэалізуецца 8 аўтарскіх праграм: "Здаровымі — у будучыню" (ПТВ № 28), "Падлетак і закон" (ПТВ № 53), "Чалавек і культура" (ПТВ № 176), "Самакіраванне – шлях станаўлення актыўнай жыццёвай пазіцыі" (Глыбоцкі прафесійны ліцэй), "Выбіраю прафесію" (ПТВ № 154), "Фарміраванне грамадзянскага стаўлення да сям'і" (Пастаўскі прафесійны ліцэй), "Псіхафізічнае развіццё падлеткаў" (Віцебскі прафесійна-тэхнічны каледж).

У гэтым навучальным годзе спіс каледжаў, якія маюць аўтарскія праграмы выхавання, дапоўніць ПТВ № 2 Полацка. Такім чынам, ахоплены ўсе напрамкі выхаваўчай работы: пытанні экалогіі, развіцця нацыянальнай культуры, праблемы здароўя навучэнцаў і іх псіхафізічнага развіцця, прававыя аспекты і абарона праваў дзіцяці, адносіны ў сям'і і грамадстве, прафесійная арыентацыя вучняў і развіццё нацыянальнай культуры. Усе напрацаваныя матэрыялы і методыкі сталі набыткам ПТНУ вобласці і выкарыстоўваюцца пры арганізацыі выхаваўчых мерапрыемстваў з навучэнцамі.

Высокую ацэнку гэтай рабоце даў рэспубліканскі семінар, праведзены на базе ПТВ вобласці. Але галоўнае — мы сталі працаваць супольна, калектыўна ствараць метадычнае забеспячэнне, вучыцца методыцы яго выкарыстання.

Аляксандр ПАЎЛАЎ,
дырэктар Віцебскага вучэбна-метадычнага Цэнтра прафесійнай адукацыі.

## Створаны класы здароўя

*Гэта аксіяматычна, што здаровы лад жыцця маладога пакалення – залог здароўя нацыі. На жаль, у эканамічных умовах, якія склаліся сёння, школьнікі часам не маюць рацыянальнага харчавання.*

Не праводзяцца таксама агульнаўмацавальныя і антыстрэсавыя мерапрыемствы, не наладжваецца паўнавартасны адпачынак, што, у сваю чаргу, стварае фактар рызыкі ўзнікнення захворванняў страты здароўя.

Як сведчыць статыстыка, за апошняе дзесяцігоддзе ў рэспубліцы побач з дэмаграфічным крызісам назіраецца рост захворванняў дзяцей – у тым ліку за кошт эндакрыннай, страўнікава-кішэчнай, сардэчна-сасудзістай, алергічнай і анкалагічнай паталогіі. У сувязі з гэтым у апошнія гады фарміруюцца школы, класы, якія можна па праве назваць "школамі (класамі) здаровага ладу жыцця"(ЗЛЖ). Менавіта такі курс цяпер уведзены ў 320 школах краіны. 27 з іх знаходзяцца ў Мінску.

Нядаўна з мэтай вывучэння адносін школьнікаў да свайго здароўя і ладу жыцця Беларускім навукова-даследчым санітарна-гігіенічным інстытутам праведзена сацыяльна-гігіенічнае апытанне ў трох школах сталіцы – дзвюх агульнаадукацыйных і адной школе здаровага ладу жыцця.

Амаль усе апытаныя школьнікі лічаць, што найперш здароўе асабліва важнае для чалавека. 58 працэнтаў з іх хочуць мець здароўе для таго, каб не хварэць, 54 – каб дабіцца поспехаў у жыцці, 36 працэнтаў – каб быць прыгожымі, моцнымі.

Прасочваецца станоўчая тэндэнцыя, дынаміка стану здароўя вучняў малодшых класаў з улікам фарміравання навыкаў менавіта здаровага ладу жыцця. Як засведчылі даследаванні, у агульнаадукацыйнай школе лік здаровых школьнікаў (1-2 група здароўя) да 4-га года навучання зніжаецца на 53,4 працэнта, у той час як у школе ЗЛЖ – 28,5.Група рызыкі (дзеці, якія маюць морфа-функцыянальныя адхіленні) у звычайнай школе павялічылася на 32,2 працэнта, а ў школе ЗЛЖ – на 16,5.

Назіраюцца адрозненні і ў паказчыках гарманічнасці фізічнага развіцця вучняў. Так, у 1-4 класах ЗЛЖ яны значна вышэйшыя, чым у звычайных.

Аналізуючы дадзеныя анкетнага апытання, міжволі даводзіцца канстатаваць, што асновай здароўя з'яўляецца не толькі адсутнасць шкодных звычак, але і адносіны чалавека да сябе, да свайго здароўя, якое фарміруецца з дзяцінства.

Не лішнім будзе яшчэ раз нагадаць бацькам і настаўнікам пра тое, што здароўе школьнікаў залежыць ад прыдатных умоў навучання, побыту і адпачынку дзяцей.

Авяліна КРУКАВА,
загадчыца лабараторыі па гігіене дзяцей і падлеткаў Беларускага НДІ санітарыі і гігіены.

Эксперымент

## Арыенцір на чалавечнасць

*М.П.Осіпаву, прафесара з Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта многія настаўнікі ведаюць з акцябрацка-піянерскіх гадоў, калі карысталіся яе парадамі наконт таго, як выхаваць сапраўдных ленінцаў. Час змяніў арыенціры ў выхаванні і нашыя погляды таксама. Сёння Марыя Пятроўна і яе каманда прапануюць іншую канцэпцыю выхавання, якая гучыць так – сацыяльна-тэхналагічная мадэль сістэмы школьна-сямейнага выхавання малодшых школьнікаў "Арыенцір".*

Апрабацыя яе ўжо некалькі гадоў праходзіць у школах Брэстчыны і, мяркуючы па водгуках, практыкі вельмі задаволены работай навукоўцаў, за што і выказваюць ім сваю ўдзячнасць. Іх сумненні – а што, калі гэта будзе вяртанне ў мінулае, ці падыдзе методыка нашаму калектыву? – аказаліся марнымі. "Арыенцір" добра ўпісаўся ў школьнае жыццё.

Да эксперыменту брэстчан падключыліся і сталічныя школы. Сярэдняя школа № 162 Заводскага раёна вось ужо трэці год ідзе апрабацыя гэтай мадэлі. Першыя ўражанні настаўнікаў-пачаткоўцаў ад мадэлі: нарэшце з'явілася канкрэтная дапамога, калі не трэба нічога выдумляць; "Арыенцір" накіраваны на адукацыю бацькоў; сям'я і школа могуць быць партнёрамі. Самі навукоўцы пра сваю работу выказваюцца так, што, па-першае, яны імкнуліся адцягнуць увагу настаўніка ад педагогікі мерапрыемстваў (як кажуць, дзеля "птушачкі"); па-другое, навучыць яго мадэляваць выхаваўчы працэс, затым – пазнаёміць з тэхналогіямі, якія заснаваныя на сістэмна-дзейсным падыходзе да выхавання; і апошняе – далучыць настаўніка да інаватыкі. Навукоўцы таксама папярэджваюць, што нельга дэталёва кіравацца ўсім, што прапісана – настаўнік мае максімум свабоды і права выбару, "Арыенцір" жа дапамагае вызначыць толькі напрамак выхаваўчай дзейнасці.

У 162-ой школе так і зразумелі. Тут настаўнікі маюць звычку да ўсяго ставіцца творча. На першым, уводным, этапе апрабацыі мадэлі ім дапамог школьны псіхолаг – Святлана Міхайлаўна Смалярчук. Яна ўзяла на сябе тлумачальна-адукацыйную работу з бацькамі. Гэта былі розныя мерапрыемствы – семінары, трэнінгі, лекцыі. Бацькі пасля прызнаваліся, што сустрэчы з псіхолагам узбагачалі іх цікавай і карыснай інфармацыяй, іхнія ж дзеці станавіліся ім раднейшымі. Таму тут было вырашана стварыць відэатэку адукацыйных лекцый, каб любы бацька мог узяць касету і ў вольную гадзіну паглядзець яе.

Штодня дзіця, вяртаючыся са школы, звычайна чуе адно і тое ж: "А што ты сёння атрымаў? Колькі разоў цябе выклікалі на ўроках?" А хто пытаўся ў малога, што яно хоча чуць на самай справе? У школе правялі анкетаванне і даведаліся: дзеці жадаюць, каб маці сустракала іх ветліва, частавала нечым смачным. Каб тата прапанаваў схадзіць разам на вуліцу – пагуляць ці з'есці ў кафэ марожанае. І ў школе, і дома выхоўваюць аднолькава – толькі пытаюцца і патрабуюць справаздачы пра зробленае. Якім ў такім выпадку можна вырасці чалавек?

"Арыенцір" прапануе мадэляваць выхаваўчы працэс па сямі структурных праектах (а яны ў сваю чаргу падзяляюцца на блокі і модулі). Стрыжневым праектам з'яўляецца школа чалавечнасці. Дзіця трэба выхоўваць уважлівым, чулым, сардэчным, гуманным, ці як яшчэ сказаць — годным звання чалавека. У сучаснай пагоні за інтэлектуалізмам, на жаль, гэта часам забываецца.

Кожны дзень у класах ладзяцца розныя мерапрыемствы – калектыўна-творчыя справы, гульні, конкурсы. Але, як расказвае Ірына Іванаўна Шынковіч, намеснік дырэктара па пачатковых класах 162-ой школы, мерапрыемствы – у кожнага класа розныя. Педагогі – людзі са сваімі густамі. І каму больш падабаецца прырода, у таго ўхіл у выхаванні будзе ў гэты бок. Хтосьці цікавіцца літаратурай, таму дзеці ў такога настаўніка будуць шмат чытаць. Класныя пакоі - таксама непадобныя, аднак усе настаўнікі стараюцца прытрымлівацца парад аўтараў "Арыенціра" па афармленні класнага закуточка. Гэта могуць быць такія рубрыкі: нашыя справы; хутка ў класе; дарожка спраў; традыцыйныя даручэнні; віншуем; гэта цікава; для вас бацькі.

"Арыенцір" зацікавіў многіх настаўнікаў-пачаткоўцаў з 162-ой школы. У кожнай паралелі па два класы займаецца па мадэлі брэсцкіх вучоных. Тым больш што, паводле меркавання саміх настаўнікаў, пачынаць працу можна з любога класа. Лідзія Дарафееўна Гаўрылава, напрыклад, сваіх дзетак выхоўвае па "Арыенціры" з самага пачатку – з падрыхтоўчага класа. Зараз яе клас з дзіцячага садка перайшоў у школу, таму класны пакой іх выглядае пакуль пустым і безаблічным. Аднак гэта пакуль, бо, як паведамляе Лідзія Дарафееўна, праз месяц тут будзе ўсё блішчаць. Пра гэта паклапоцяцца бацькі. Для настаўніцы – яны сапраўдныя памагатары. Прыйшлі, паглядзелі, ацанілі і ўзяліся за працу. Справа Лідзіі Дарафееўны – выказваць пажаданні і прымаць гатовую работу. Але бацькі не адразу былі такімі камунікатыўнымі і лагоднымі. Прывёўшы сваіх дзяцей у падрыхтоўчы клас, яны дакладна падзялялі клопаты на свае і школьныя. Настаўніца кажа, што гэта "Арыенцір" пераарыентаваў дарослых. Сёння ніводнае свята ў класе не абыходзіцца без бацькоўскага ўдзелу. Тата і мама жывуць адным жыццём са сваім дзіцяткам. Бацькі адкрываюць у сабе розныя таленты і перадаюць іх сваім дзецям, а таксама іх сябрам і аднакласнікам. Цяпер сапраўды можна казаць пра адзіную моцную сям'ю, якая складаецца з саюзу школы і бацькоў.

Матэрыялы мадэлі "Арыенцір" можна выкарыстоўваць не толькі ў пазашкольных мерапрыемствах, але і на ўроках.

Ці змяніліся дзеці з прыходам у школу новай выхаваўчай сістэмы? Цяжка праверыць чалавека на выхаванасць. Але псіхолаг і завуч школы сцвярджаюць, што дзеці з эксперыметальных класаў – больш радасныя, добразычлівыя, з імі лягчэй наладзіць сувязь. І ёсць яшчэ адна дадатковая якасць "Арыенціра" – ён умацоўвае і захоўвае сем'і.

**Святлана КІРСАНАВА.**

## За справу ўзялася фірма "Днепр"

*Унітарнае кааператыўнае аграпрадпрыемства "Фірма "Днепр" вядомая сваімі справамі як на Магілёўшчыне, так і ў краіне. Эканамічнае становішча гаспадаркі дазваляе ёй ахапіць клопатам мясцовую Кадзінскую сярэднюю школу (Магілёўская раён).*

Як паведаміў дырэктар школы Андрэй Заблоцкі, фірма садзейнічае навучальнай установе ў арганізацыі гарачага харчавання школьнікаў.Школьная сталоўка, па сутнасці, стала філіялам узорнай сталовай фірмы, дзе працуюць высокакваліфікаваныя кухары.

Загадчыца школьнай сталовай Наталля Матусевіч, вопытны спецыяліст, робіць усё магчымае, каб вучні атрымлівалі высокакаларыйныя па спажыўнасці абеды, да таго ж разнастайныя. Сацыяльны педагог школы з гэтай мэтай практыкуе папярэдняе апытанне вучняў. З улікам іх пажаданняў і складаецца меню.

Андрэй Барысавіч паінфарамаваў, што за харчаванне вучняў бацькі не плацяць: выкарыстоўваецца як датацыя дзяржавы, так і пэўны набор гародніны, які па рашэнні працоўнага калектыву фірмы адпускаецца бясплатна.

Дзякуючы фірме будынак школы падключаны да сістэмы цэнтральнага ацяплення гаспадаркі.

Наш кар.

# Шалом, аднакласніца,
## або Школьныя гарэзы ў Іерусаліме

*Юлі Кацовіч 22 гады. Летам 1991 года, закончыўшы 6 класаў мінскай школы № 19, яна з маці і дзядулем эміргавалі ў Ізраіль. Ды засталася маёй сяброўкай — у лістах і рэдкіх тэлефанаваннях. Праз 10 гадоў Юля спраўдзіла сваю мару —вярнулася ў Мінск, праўда, як турыстка, на некалькі дзён. Наша з ёй гутарка — пра ізраільскую школу.*

— *Якія былі твае першыя ўражанні ад ізраільскай школы?*

— Першыя тры гады былі для мяне вельмі складаныя. Пасля некалькіх месяцаў “школы для рускіх” (ульпана) я трапіла ў вельмі прыстойную іерусалімскую школу. Ніякія курсы іўрыта не маглі вынішчыць мой акцэнт. Я была адзіная “руская”, і ў мой бок былі скіраваны ўсе насмешкі і кпіны. У Ізраілі надзвычай шумныя дзеці. Там няма нават паняцця “павага да настаўніка”, няма дысцыпліны. 10 хвілін урока звычайна ідзе на тое, каб супакоіць клас, асабліва малодшы. А я была ціхоня, (гэта савецкая рыса...) Але гэта ж дапамагло мне: я падабалася настаўнікам і бясконца зубрыла, зубрыла... У выніку я засталася ў гэтай школе пасля 9 класа, а многія мае “ганіцелі” пасля “чысткі кадраў” пакінулі яе. Вучыцца да 12 класа звычайна застаюцца лепшыя вучні. Мне пашчасціла. Я апярэджвала аднакласнікаў па матэматыцы (дзякуючы мінскай школе), была першай па сачыненні (гэта асобны ўрок), але практычна не валодала англійскай мовай. У Ізраілі яе вывучэнне пастаўлена на вельмі высокі ўзровень.



— *Адукацыя ў Ізраілі платная?*

— За навучанне плата проста сімвалічная, па кішэні любому. А вось падручнікі вельмі дарагія. Шалёна. І ніякіх датацый, ільготаў — кроў з носа, а дастань.

— *Любімыя ўрокі ў дзяцей ёсць? Памятаеш, як у нас, — спевы, фізкультура?*

— Не, такога няма. Да фізкультуры сапраўды не трэба рыхтавацца, але яна мала для каго любімая з-за вялікай фізічнай нагрузкі. Не забывайся, нас рыхтавалі да арміі. Шчыра прызнацца, потым, у арміі, нагрузкі былі меншыя. Асабіста мне з урокаў падабалася псіхалогія, літаратура, сачыненне (аднойчы маё сачыненне нават чыталі па школьным радыё).

— *Твой самы вялікі поспех?*

— Выпускнікі акрамя ўрокаў і падрыхтоўкі да апошняга экзамена (багрута) рыхтуюць сваё ўласнае шоу на канец года. Наша было сапраўды выдатным. Нам дапамагаў дзядзька аднакласніка, вядомы ізраільскі рок-спявак. Мы ўвесь горад заклеілі налепкамі і рэкламай нашага свята. Мая самая вялікая школьная мара была таньчыць на выпускным шоу. І яна спраўдзілася! У нас быў сапраўдны балетмайстар, і шоу атрымалася проста казачным.

— *А як на ўроках вы забаўляліся і сваволілі?*

— Самае банальнае — спытацца ў настаўніка пасярод тлумачэння “а чаму?”. Настаўнік вымушаны адказаць. Як толькі ён спрабуе вярнуцца да ўрока, падымаецца наступны вучань і кажа: “А чаму?”. Гэтак можа працягвацца 40 хвілін, і настаўнік абавязаны тлумачыць.

А самае цікавае — традыцыйная абавязковая вайна паміж паралелямі 11-х і 12-х класаў. Такая, што мае маладзейшыя сяброўкі баяліся проста падняцца на свой паверх. Самая вялікая бітва двух паралеляў адбылася на прышкольнай вуліцы. Мы закідвалі адзін аднаго яйкамі і мукой. Уся вуліца была забруджана. Нам сапраўды “ўляцела” ад настаўнікаў, а вуліцу мы адмывалі некалькі гадзін. Пра гэты выпадак нават пісалі ў мясцовай газеце.

Яшчэ мы давалі хабар вартаўніку і ўночы абмотвалі ўсе паверхі школы (лесвіцы, лямпы, ручкі кабінетаў) туалетнай паперай. Аднойчы нашы хлопцы заклалі дзверы ў настаўніцкі пакой цэглай. Іншым разам мы за ноч размалёўвалі сцены школы. Прычым так прыгожа, што нам дазвалялі пакінуць малюнкі да канца нашай вучобы. Дарэчы, 12-я класы афіцыйна маюць права на свавольствы, але на наступны дзень павінны ўсё за сабой прыбраць. Выключэнне — замураваны настаўніцкі пакой. Школьнаму кіраўніцтву давялося выклікаць брыгаду каменшчыкаў.

Гэта не хуліганства. Гэта — традыцыя. Усе ведаюць “вінаватых”, але ніхто нікога не карае. Хіба што за яйкі з мукой нам уляцела. Людзі, якія жывуць на прышкольнай вуліцы, не пацярпелі з-за нас.

Усе нашы гісторыі і войны знятыя на відэа. Кожны год у Ізраілі праходзіць конкурс школьных фільмаў. Наш фільм заняў першае месца. Так яшчэ ніхто не гарэзіў.

— *Гэты фільм — ваш своеасаблівы школьны альбом?*

— Не, але альбому нас ёсць таксама. Незвычайны. Кожны клас стараецца як толькі можа. Альбом складаецца з лістоў да настаўніка і ад настаўніка — вучням. У нашым альбоме Маленькі Прынц прылятаў на планету кожнага вучня, гутарыў з ім, пакідаў свае заўвагі. Гэта альбом-казка.

— *Ты некалі шкадавала, што не заканчвала школу разам са мной. Але цяпер зайздросціць пачынаю я.*

— Не трэба. Цябе пасля школы не чакала армія, магчымая вайна, частыя тэракты.

— *Школа, армія... А вышэйшая адукацыя?*

— Пасля арміі маладыя людзі звычайна працуюць год ці два, каб зарабіць на універсітэт. У гэты час некаторыя пераздаюць свой псіхаметрычны тэст (яго здаюць пры універсітэце звычайна пасля прыватных курсаў). Менавіта ён, а таксама адзнака за багрут (выпускны школьны экзамен) стане (або не стане) пропускам да вышэйшай адукацыі. Вельмі папулярныя сёння прафесіі біёлага, хіміка, псіхолага. Самая ж прэстыжная адукацыя — юрыдычная і журналісцкая. Я вывучаю ва універсітэце сучасную англійскую мову.

— *Твая радзіма — толькі Ізраіль?*

— Яшчэ тыдзень таму я была ўпэўнена, што так. Вядома, я патрыётка. У выпадку вайны я не буду ўцякаць, а пайду ў армію. Але я вярнулася ў Мінск і зразумела, што нейкая частка маёй душы, значная частка, назаўсёды засталася тут. Мінск — маё дзяцінства і палова маёй душы. Я думала, што пасля гэтай паездкі я супакоюся яшчэ гадоў на 10. Але цяпер упэўнена: я вярнуся праз пару гадоў, чакай.

Гутарку вяла Крысціна ПУЧЫНСКАЯ.

НА ЗДЫМКАХ: панарама Іерусаліма; Святыня Кнігі.



Коратка пра рознае

## На голым кампусе

Амаль 1,8 млн. амерыканскіх юнакоў і дзяўчат упершыню пачалі ў новым навучальным годзе навучанне ў каледжах ЗША, пасяліўшыся ў кампусах — студэнцкіх гарадках. Самастойнасць жыцця без пастаяннага кантролю з боку бацькоў, безумоўна, прыцягальная для маладых людзей, якія лічаць сябе зусім дарослымі. Але ўсё-такі ці шкадуюць яны аб чым-небудзь, што пакінулі за сценамі навучальнай установы?

Як высветлілася, большасць студэнтаў, нягледзячы на радасныя перспектывы самастойнасці, шкадуюць аб расставанні са сваімі блізкімі. Згодна з данымі апытання, апублікаванымі ў газеце “Крысчэн саенс монітар”, сумуюць па сям'і 33 працэнты яго ўдзельнікаў. Яшчэ 20 працэнтаў заявілі, што ім будзе неставаць іх сяброў, з якімі яны раней праводзлі вольны час. 9 працэнтаў сказалі, што больш за ўсё будуць адчуваць адсутнасць ежы дамашняга прыгатавання, і столькім жа — 9 працэнтам — не падабаецца, што цяпер ім давядзецца займацца мыццём бялізны, чаго яны не рабілі раней. Пра асобнуную ванну з душам будуць марыць 6 працэнтаў студэнтаў, якія пераехалі ў кампус.

Цынічнымі, але затое шчырымі ў ходзе апытання аказаліся 4 працэнты рэспандэнтаў. Па іх словах, яны будуць шкадаваць толькі пра адно — ім больш не ўдасца вымагаць грошы ў бацькоў.

## Хто навучыць... роднай мове?

Для многіх першакласнікаў у школах Франкфурта-на-Майне нямецкая мова з'яўляецца замежнай. Гэта натуральна: “майнская метраполія” з насельніцтвам каля 700 тысяч чалавек — самы шматнацыянальны горад Германіі. Там пражываюць выхадцы амаль са 100 краін свету. Доля іншаземцаў ужо даўно перавысіла 35-працэнтны бар'ер, што стала самым высокім паказчыкам для германскіх гарадоў. Для параўнання: у Штутгарце налічваецца 24,1 працэнта іншаземцаў, у Мюнхене — 23,6, у Кёльне — 20,5, у Дзюсельдорфе —19,2, у Берліне — 12,9 працэнта.

У выніку ў кожнай трэцяй са 155 франкфурцкіх школ доля дзяцей іншаземцаў перавышае 50 працэнтаў. А ў федэральнай зямлі Гесэн, дзе ахвотна селяцца імігранты, такіх школ налічваецца больш за сто. Пры гэтым многія дзеці іншаземцаў пачынаюць вывучаць нямецкую мову толькі ў школе. Як правіла, яны жывуць сваімі этнічнымі абшчынамі, рэдка сябруюць са сваімі нямецкімі равеснікамі.

Магазіны, кафэ і клубы, а таксама спадарожнікавае тэлебачанне, якое дазваляе глядзець перадачы сваёй гістарычнай радзімы, — усё гэта стварае ілюзію “маленькага Стамбула” на берагах Майна і не садзейнічае інтэграцыі.

Для пераадолення гэтай тэндэнцыі ўлады Франкфурта ўвялі ў гарадскіх школах дадаткова 300 ставак для выкладчыкаў, якія будуць навучаць дзяцей-іншаземцаў нямецкай мове. У 10 школах гэтай катэгорыі вучням аказваецца дапамога ў выкананні дамашніх заданняў, а ў 95 нават вядзецца выкладанне часткі прадметаў на роднай мове дзяцей. Адначасова робіцца спроба далучыць да вывучэння нямецкай мовы і бацькоў вучняў. У двух дзесятках школ ужо дзейнічае праграма “Мама вучыць нямецкую мову”.

Актуальнасць праблемы падкрэсліваюць і даныя дэмаграфічных даследаванняў: пры прадаўжэнні такой тэндэнцыі праз 15 — 20 гадоў у Германіі з'явяцца гарады, у якіх іншаземцы будуць складаць больш паловы жыхароў. І Франкфурт-на-Майне можа стаць у гэтым спісе першым.

## Колькі каштуе дзіця

Дзіця, якое нарадзілася ў мінулым годзе ў ЗША, “абыдзецца” сваім бацькам да 17-гадовага ўзросту прыкладна ў 165 тысяч 630 долараў. З улікам інфляцыі гэтая сума перавысіць 233 тысячы долараў. Такія новыя ацэнкі выдаткаў сярэдняй амерыканскай сям'і на ўтрыманне аднаго дзіцяці, абнародаваныя Міністэрствам сельскай гаспадаркі ЗША.

Яны складаюцца ўжо 40 гадоў і служаць важнай падмогай, у прыватнасці, для службаў сацыяльнага забеспячэння і судоў — напрыклад, пры вырашэнні пытанняў аб усынаўленні, назначэнні аліментаў і г.д. У 1960 годзе выгадаваць дзіця да 17 гадоў “каштавала” ў ЗША амаль на парадак менш — каля 25 тысяч 230 долараў. Праўда, у рэальных цэнах павелічэнне затрат за гэты перыяд было не такое вялікае — прыкладна 13 працэнтаў.

Зразумела, сума расходаў залежыць ад агульнага дастатку сям'і. У бедных сем'ях яна ніжэйшая за сярэдні паказчык — 12 1тысяча 230 долараў за 17 гадоў, у багатых — істотна вышэйшая (241 тысяча 770 долараў у цэнах мінулага года). Да таго ж доўгатэрміновыя прагнозы не вельмі дакладныя. Таму для спецыялістаў у ЗША найбольшую цікавасць уяўляе сума расходаў на год. У 2000 годзе яна склала для сям'і, якая ўключае двух бацькоў з сярэднім узроўнем даходаў, ад 8 тысяч 740 да 9 тысяч 860 долараў у залежнасці ад узросту дзіцяці.

Сярод складнікаў гэтай сумы амерыканскія спецыялісты ставяць на першае месца затраты на жыллё — каля 33 працэнтаў. Цікава, што і 40 гадоў назад гэты паказчык быў практычна тым жа — 32 працэнты. Істотна знізіліся расходы на харчаванне — з 24 да 18 працэнтаў агульнай сумы. Затое дзіцячыя сады і школы патрабуюць цяпер значна большых выдаткаў — 10 працэнтаў супраць 1 у 1960 годзе.

Падрыхтаваў Ігар КАНДРАЛЬ.

# *Па старонках Інтэрнета*

## Ці патрэбныя “корачкі” ў Расіі?

Згодна з дадзенымі апошняга профільнага сацыялагічнага апытання, вышэйшая адукацыя ў Расіі сёння каціруецца даволі высока. Так, 74% рэспандэнтаў сказалі, што наяўнасць вышэйшай адукацыі — надзвычай важная ўмова дасягнення жыццёвага поспеху, і толькі 23 % лічаць гэты фактар неістотным. У апытаных ва ўзросце да 35 гадоў суадносіны па гэтым пытанні складаюць адпаведна 80 і 15%. Звыш 60% апытаных гатовыя патраціць значныя фінансавыя сродкі на адукацыю дзяцей і ўнукаў. Сярод моладзі і дзяцей сярэднягя ўзросту гэтая лічба складае 73%. Большасць прадстаўнікоў старэйшага пакалення лічыць, што вучоба не павінна спалучацца з выдаткамі для студэнтаў і іх сем'яў.

Выбіраючы паміж ранім працаўладкаваннем і навучаннем у ВНУ, абсалютная большасць расіян (80%) аддае перавагу апошняму варыянту, нават з улікам неабходнасці плаціць грошы за адукацыю.

Адносна патрэбнай колькасці дыпламаваных спецыялістаў погляды разыходзяцца. Крыху больш за трацiну апытаных лічыць, што людзей з дыпломамі ВНУ у краіне не хапае, 23 % упэўеныя ў адваротным, а 18% мяркуюць, што спецыялістаў — якраз столькі, колькі трэба.

## Школьнікі будуць вывучаць творчасць Джона Ленана

У праграму англійскіх школ уключана вывучэнне творчасці аднаго з найвядомейшых музыкантаў XX стагоддзя — лідэра гурта “Бітлз” Джона Ленана. Гэтая тэма будзе часткай курса, які займаецца вывучэннем сацыяльных і тэхналагічных змяненняў, што адбыліся ў Вялікабрытаніі і свеце з 1930 года.

Школьнікі будуць знаёміцца з музычнай і паэтычнай творчасцю Ленана, яго біяграфіяй. Разам са станоўчымі момантамі настаўнікі будуць звяртаць увагу падлеткаў на згубны ўплыў ужывання наркотыкаў на жыццё музыканта, аналізаваць факты яго эпатажных паводзін, нестандартныя погляды на сацыяльныя адносіны і грамадскую мараль. У вучняў некаторых школ з'явіцца выбар, што вывучаць: урокі другой сусветнай вайны альбо біяграфіі знакамітых суайчыннікаў.

## Сезон палявання на праграмістаў

За мінулы год попыт і прапанова на рынку працы праграмістаў і сістэматэхнікаў яшчэ больш адышлі ад кропкі раўнавагі. Аднак ужо да снежня чакаецца агульнае зніжэнне патрабаванняў да камп'ютэршчыкаў з адначасовым павышэннем зарплат, што адкрые чарговы сезон “палявання за галовамі праграмістаў”.

Разам з тым, попыт на расійскіх праграмістаў унутры краіны — нашмат ніжэйшы, чым на Захадзе. Дзякуючы прэстыжу расійскай вышэйшай адукацыі, перамогам айчынных студэнтаў на алімпіядах ўсё больш прадпрыемстваў ЗША і Заходняй Еўропы праяўляюць цікавасць да спецыялістаў з Расіі і СНД. Многія Еўрапейскія і амерыканскія кампаніі адкрылі ў Расійскай Федэрацыі офісы па аўтсорсінгу і афшорныя фірмы.

Згодна з дадзенымі кампаніі Brunswick Warburg, у 1999 годзе ў Расіі ў афшорных паслугах па праграмаванні было задзейнічана 70 млн. USD. Пры гэтым штогод сума павялічваецца прыкладна на 50%.

У той жа час заходні бізнес з насцярожанасцю ставіцца да расійскіх афшорных прадпрыемстваў. Такая асцярожнасць выклікана, у першую чаргу, частымі выпадкамі няздольнасці з боку расійскіх партнёраў выконваць умовы кантрактаў, няўмелым фінансавым кіраваннем, культурнымі бар'ерамі і іншымі асаблівасцямі айчыннага менеджменту.

“Дысцыпліна ў расійскіх афшорных кампаніях — асноўная праблема для заходніх бізнесменаў,” — лічыць генеральны дырэктар кадравага агенцтва “Аркадия” Юрый Іваноў. Асноўная прычына гэтага, на яго думку, у тым, што айчынныя ВНУ, пры дастаткова высокім узроўні тэхнічнай падрыхтоўкі, абсалютна не даюць навыкаў методык распрацоўкі, умення працаваць у камандзе. У заходніх жа універсітэтах, побач з чыста прафесійнымі ведамі, значную ўвагу надаюць і навыкам калектыўнай працы.

Заходнія фірмы набіраюць расійскіх спецыялістаў у асноўным з-за таннасці рабочай сілы і нядрэннага ўзроўню тэхнічнай падрыхтоўкі. Айчынныя кадры — менш патрабавальныя і зашораныя, яны могуць эфектыўна працаваць у экстрэмальных, няштатных сітуацыях.

## Педінстытут рыхтуе афіцэраў

Створаная ў верасні 1979 года ваенная кафедра Расійскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя А.І.Герцэна у Санкт-Пецярбургу штогод рыхтуе больш за 100 афіцэраў-псіхолагаў, многія з якіх праходзяць службу ў розных сілавых структурах.

Як лічыць загадчык кафедры палкоўнік Аляксандр Ліхнікевіч, тут, акрамя навучання студэнтаў, можна было б ажыццяўляць і падрыхтоўку намеснікаў камандзіраў па выхаваўчай рабоце з насельніцтвам у зоне ўзброеных канфліктаў.

## Настаўнікі атрымаюць Інтэрнет-адукацыю

У верасні пачаліся рэгулярныя заняткі ў новым вучэбным камп'ютэрным цэнтры бясплатнай Інтэрнет-адукацыі па праграме “Навучанне настаўнікаў-прадметнікаў”.

Цэнтр быў адкрыты 31 жніўня 2001 г. Усеукраінскім дабрачынным фондам “Інфармацыйнае таварыства Украіны” з мэтай павышэння эфектыўнасці школьнай адукацыі.

Праграма разлічана на настаўнікаў інфарматыкі, настаўнікаў-прадметнікаў, прадстаўнікоў адміністрацый школ. Удзел у ёй у якасці слухачоў прымаюць і выкладчыкі шэрагу іншых навучальных устаноў.

Курс уключае ў сябе базавы і паглыблены этапы і прадугледжвае засваенне настаўнікамі навыкаў работы з персанальным камп'ютэрам, Web-дызайну, працы ў Інтэрнеце, выкарыстання інфармацыйных тэхналогій у адукацыі.

## Першы на Украіне інстытут біяэтыкі

21 верасня 2001 года ў Львове адчыніў дзверы першы на Украіне інстытут біяэтыкі імя Я. Базылевіча. Установа створана на базе Львоўскага філіяла украінскай акадэміі дзяржаўнага кіравання пры Прэзідэнце Украіны і Інстытута біяэтыкі Рымскага універсітэта імя А. Джэмелі.

Мэтай стварэння інстытута з'яўляецца ўкараненне ў жыццё прынцыпаў біялагічнай медыцыны і хрысціянскай этыкі, што, на меркаванне аўтараў праграм, дазволіць чалавеку знайсці і асэнсаваць сваё месца ў грамадстве. Навучацца на курсах Інстытута біяэтыкі будуць прадстаўнікі органаў мясцовай улады і самакіравання, грамадскіх арганізацый.

## Акруговы педсавет у Ханты-Мансійску

У Ханты-Мансійску адбыўся педсавет Уральскай федэральнай акругі. У ім узялі ўдзел кіраўнікі самага рознага ўзроўню — ад начальніка акруговага ўпраўлення навукі і адукацыі да загадчыкаў дзіцячых садкоў. Былі запрошаны таксама прадстаўнікі адукацыйнай навукі, метадысты, пераможцы прафесійных конкурсаў. Сярод асноўных пытанняў, якія абмяркоўваліся падчас мерапрыемства — шляхі рэфармавання адукацыі, матэрыяльна-фінансавае становішча, роля маральна-псіхалагічных фактараў у выхаванні дзяцей.

## Будзе створаны адзіны адукацыйны Інтэрнэт-партал

На Першай усерасійскай навукова-практычнай канферэнцыі “Расійская школа і Інтэрнет”, якая адбылася ў Санкт-Пецярбургу, міністр адукацыі Расійскай Федэрацыі Уладзімір Філіпаў распавёў пра план стварэння адзінага Інтэрнет-партала, даступнага ўсім сярэднім навучальным установам краіны. Філіпаў таксама высока ацаніў дзейнасць Федэрацыі Інтэрнет-адукацыі па стварэнні рэгіянальных цэнтраў у рамках праекта “Поколение. Ru” і паведаміў, што Мінадукацыі мае намер ўзяць гэты вопыт на ўзбраенне.

На сённяшні дзень “Поколение. Ru” ужо мае 16 рэгіянальных цэнтраў Інтэрнет-адукацыі і больш за 8 тысяч настаўнікаў, якія прайшлі ў іх курс навучання. Да 2005 г. колькасць такіх цэнтраў павінна ўзрасці да 50. Наступным крокам у развіцці Інтэрнет-адукацыі Уладзімір Філіпаў назваў распрацоўку электронных падручнікаў па ўсіх школьных прадметах. Конкурс на іх стварэнне будзе аб'яўлены Міністэрствам адукацыі ў І паўгоддзі 2002 г. Акрамя Ул. Філіпава, у канферэнцыі, якую арганізавалі Міністэрства адукацыі і Федэрацыя Інтэрнет-адукацыі, узялі ўдзел віцэ-спікер Дзяржаўнай думы І. Хакамада, прэзідэнт кампаніі “ЮКОС” М. Хадаркоўскі, кіраўнікі і спецыялісты галіны адукацыі.

## У Кіеве выберуць лепшага студэнта

У кастрычніку пачаўся першы тур конкурсу “Студэнт Кіева — 2001”, які ўжо ў чацвёрты раз праводзіцца сярод студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў украінскай сталіцы.

Па словах прэзідэнта грамадскага фонду Святога Андрэя Першапакліканага Анатоля Каваленкі, плануецца, што ў конкурсе возьме ўдзел звыш 1 тысячы студэнтаў з 40 сталічных ВНУ, як дзяржаўнай, так і недзяржаўнай формы ўласнасці.

## Губернатар узнагародзіў настаўнікаў

За прафесійны і творчы ўклад у развіццё народнай адукацыі Маскоўскай вобласці губернатар Барыс Громаў заахвоціў 100 лепшых работнікаў школ і ВНУ сваімі імяннымі прэміямі, памер кожнай з якіх складае 100 мінімальных заработных плат. Такая акцыя праведзена ўпершыню. Сярод узнагароджаных — педагогі ліцэя Каломны, Лукер'інскай і Праваднікоўскай сярэдніх школ, шэраг выкладчыкаў — прафесараў Каломенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута.

## Гарадскія настаўнікі пойдуць у армію

Пытанне, служыць ці не служыць у войску, для выпускнікоў педагагічных ВНУ больш “неактуальнае”. Радзіма вырашыла цвёрда — служыць. Напрыканцы мінулага тыдня Дзяржаўная Дума Расіі адхіліла ў першым чытанні законапраект, які прадугледжвае адтэрміноўку ад службы ў арміі дадатковым катэгорыям маладых настаўнікаў. Узяць у рукі ўказку замест аўтамата педагогі прызыўнога ўзросту змогуць толькі тады, калі пойдуць у глухія вясковыя школы.

Законапраект быў перададзены ў парламент яшчэ мінулай вясной. Распрацоўшчыкі прапаноўвалі не забіраць у армію настаўнікаў незалежна ад месца работы. Сёння перспектыва трапіць у армію не пагражае толькі вясковым настаўнікам, гараджане ж павінны выконваць свой вайсковы абавязак у поўным аб'ёме.

Шанцаў у гэтага праекта амаль не было. Думскі камітэт па абароне, вядомы сваёй непрыязнасцю да любых армейскіх адтэрміновак, заняў жорсткую пазіцыю і рэкамендаваў парламентарыям адхіліць папраўкі. Паводле меркавання членаў камітэта, іх прыняцце канчаткова разбурыла б усю сістэму сельскай адукацыі. “Мы лічым, што прыняцце праекта выклікала б масавы адток настаўнікаў з вёскі, — сказала кансультант апарата камітэта Таццяна Андрэева. — Сутнасць адтэрміноўкі для сельскіх педагогаў у тым, каб падтрымаць менавіта вясковую адукацыю. У дадзеным выпадку эффект быў бы супрацьлеглым. Відавочна, што многія сельскія настаўнікі, атрымаўшы ільготу, адразу накіраваліся б на працу ў горад.”

У выніку за прыняцце папраўак прагаласавалі 184 дэпутаты пры неабходных 226. І тым, хто закончыў ВНУ ў бягучым годзе давядзецца выбіраць: альбо сеяць “разумное, доброе, вечное” ў вясковым глушы, пакуль не стукне 27 гадоў, альбо 2 гады ўдасканальваць майсэрства страявога кроку.

## Атрымаць адукацыю, не выходзячы з дому

Гэта стала магчымым дзякуючы рэалізацыі праекта ТЭМПУС, тэхнічнае садзейнічанне ў рэалізацыі якога аказваюць прадстаўнікі Еўрапейскага Саюза. Згодна з планам, універсітэты-партнёры краін Каспійскага мора і буйнейшыя еўрапейскія ВНУ будуць звязаны ў адзіную камп'ютэрную сетку, каардынацыйны цэнтр якой знаходзіцца ў Астраханскім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце. Студэнты з дапамогай Інтэрнета змогуць тут атрымліваць адукацыю па такіх прадметах як прыкладная матэматэка, менеджмент, рэклама, фінансы і крэдыт. Прычым, абсалютна бясплатна.

Па словах віцэ-губернатара вобласці Ірыны Радненка, паўтары месяцы таму на сустрэчы ў Іране прадстаўнікі Асацыяцыі ўніверсітэтаў прыкаспійскіх дзяржаў падпісалі пагадненне аб стварэнні віртуальнага універсітэта краін-суседзяў. У Расіі адпаведныя класы будуць створаны ў іншых навучальных установах Астраханскай вобласці, а таксама — у Дагестане і Калмыкіі. І магчыма, ужо напрыканцы кастрычніка ў дыстанцыйны ўніверсітэт паступяць першыя студэнты.

**Падрыхтаваў Уладзімір МАТУСЕВіч**

